наша свабода

№45 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 ЖНІЎНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.6



БЕЛОРУССКОЕ «БИСТРО»

# Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ



Фота IREX/ProMedia

У мінулую суботу ў Мінску прайшоў Усебеларускі з'езд, на якім быў прыняты ўсяго адзін дакумент – Акт Незалежнасці. Гэта свайго роду дэкларацыя суверэнітэту краіны як галоўнай умовы існавання ды развіцця чалавека і ўсяго грамадства Беларусі. Таму суверэнітэтам нельга гандляваць ні ў якіх мэтах. Паказальна, што акт прыняты з'ездам, які правялі не апазіцыйныя партыі, тым больш не ўлада, а прадстаўнікі, так бы мовіць, незалежнай грамадскасці. Што разглядаецца як прапанова мець нарэшце і ў нас хоць адну агульную каштоўнасць.

Улады вуснамі міністэрства юстыцыі яшчэ напярэдадні абвесцілі з'езд нічога не вырашаючым сходам грамадзянаў, усе рашэнні якога не будуць мець ніякай юрыдычнай сілы. Паводле вызначанага курсу дзейнічалі і дзяржаўныя СМІ. Прыкладам, БТ такой падзеі не заўважыла ўвогуле, там усе наяўныя творчыя сілы аказаліся кінутымі на жніво і рэкламу чарговага прэзідэнцкага падарунка беларускаму народу – лядовага палаца ў Брэсце. Затое тры асноўныя каналы расійскага тэлебачання чамусьці брэсцкім лёдам не зацікавіліся і асвятлілі вынікі Усебеларускага з'езда. Прычым асвятлілі даволі шырока. НТВ дык зрабіла нават два асобныя рэпартажы, яўна скарэктаваўшы ў другім танальнасць рэпартажу на карысць з'езда. Праўда, расіяне зноў не здолелі адарвацца ад сваіх стэрэатыпаў. Паказваючы бел-чырвонабелы сцяг, яны абавязкова кажуць пра апазіцыю і нацыяналістаў, абавязкова шукаюць праявы антырусказці і не супакойваюцца нават, калі іх не знаходзяць. Удзельнікі з'езда ў падачы расійскіх журналістаў былі тымі, хто "супраць саюза з Расіяй".

Між тым, з'езд задумваўся і яго ўдалося правесці менавіта як акт волевыяўлення прадстаўнікоў народа, як дэманстрацыя прагі беларусаў быць не супраць кагосьці, а за Беларусь. Моц гэтай падзеі ў тым, што, не зважаючы на сімпатыі ці антыпатыі да пэўных палітыкаў і палітычных канцэпцыяў, акрэслены нейкі агульны для ўсіх набор каштоўнасцяў, што складаюць падмурак беларускага светапогляду, усёй будоўлі пад назвай Беларусь. Тое, што асноўным каменем гэтага падмурка з'яўляецца НЕЗАЛЕЖНАСЦЮ, не ёсць вынаходніцтва з'езда, прызналі ягоныя ўдзельнікі. У гэтым сэнсе яны выстройвалі гістарычны ланцужок ад 27 ліпеня 1990 года, калі была прынятая дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі, праз супярэчлівую гісторыю стагоддзя да 25 сакавіка 1918 г. ▶

Працяг на стар. 3

# АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

– усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;

– напамінаючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найцяжэйшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава.

Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі – бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**АБВЯШЧАЕМ**

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЁМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

*Прынята Усебеларускім З'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску.*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Група «Ітэра» набыла 50 % акцыяў беларускага нафтахімічнага прадпрыемства «Белпак».** Палову акцыяў кантралюе дзяржаўны канцэрн «Белнафтахім», па 25 % належала хімічнаму канцэрну Eastman Chemical і еўрапейскаму падраздзяленню Pepsico. У чэрвені абедзве заходнія кампаніі прадалі групе ўсе свае акцыі. "Ітэра" і яе беларускае падраздзяленне "Ітэра-Бел" ужо распрацавалі для "Белпака" інвестыцыйную праграму на 20 мільёнаў долараў. Яе рэалізацыя дазволіць павялічыць выпуск PET-гранулята да 90 тысяч тонаў у год і болей, у выніку чаго "Ітэра" зможа адмовіцца ад імпарту сыравіны для сваіх заводаў з Паўднёвай Карэі, Малайзіі і Інданезіі.

■ **Па факце смерці былога мэра Санкт-Пецярбурга Анатоля Сабчака ўзбуджаная крымінальная справа.** Пра гэта паведаміў расійскі журналіст Андрэй Каравулаў у эфіры радыёстанцыі «Эха Масквы». Па ягоных словах, крымінальная справа ўзбуджаная па прыкметах злачынства, прадугледжанага першай часткай 105-га артыкула «Забойства з абцяжарваючымі абставінамі», на падставе вынікаў ускрыцця цела А.Сабчака. Як вядома, 20 лютага вядомы палітычны дзеяч 80-90-х гадоў паехаў у Калінінград агітаваць за свайго былога студэнта Уладзіміра Пуціна і там уначы сканаў – нібыта ад інфаркту.

■ **Учора парламент Ізраіля – кнесет – патаемным галасаваннем абраў восьмага прэзідэнта Ізраіля.** Ім стаў кандыдат ад правага блока «Лікуд» Машэ Кацаў. У другім туры галасавання ён перамог свайго саперніка Шымона Перэса. За М.Кацава было пададзена 63 галасы, за Ш.Перэса – 57. Машэ Кацаву 55 гадоў, ён нарадзіўся ў Іране і ў пяцігадовым узросце з бацькамі пераехаў у Ізраіль. Ужо ў 23 гады М.Кацаў упершыню стаў дэпутатам кнесета ад «Лікуда». У розныя часы ён займаў пасады міністраў працы, транспарту і турызму. Дагэтуль за ўсю гісторыю Ізраіля прэзідэнтам краіны ніводнага разу не станавіўся кандыдат ад правых.

■ **Швейцарскія ўлады заблакавалі рахункі ўрада Казахстана ў мясцовых банках на суму каля 100 мільёнаў долараў.** Следчыя ЗША і Швейцарыі падазраюць, што гэтыя рахункі выкарыстоўваліся заходнімі нафтавымі кампаніямі для падкупу высокіх афіцыйных асобаў Казахстана. Частка рахункаў адкрытая на імя прэзідэнта Нурсултана Назарбаева.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 985



## Цяжкі хлеб Рукой Вадзіцеля

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Веру. Ведаю. Усведамляю. Невыносна цяжка кіраваць усёй сельскай гаспадаркай краіны аднаму Чалавеку. Нават такому Волату, як былы Дырэктар саўгаса «Гарадзец». Бо сэрца ў Яго зараз нястомна баліць, а душа пякуча гарыць за хлеб і хлебаробаў. І няма на каго абаперціся.

«Галоўнае – гэта хлеб!», - высунуў Ён на мінулай селектарнай нарадзе геніяльную думку. Высунуў раптоўна, знянацку, і тым самым скалануў да самага донца ўсё нашае грамадства, бо многія з нас да таго дня думалі, што галоўнае – гэта сала або гарэлка, або жанчыны. Ажно не! Галоўнае – гэта хлеб. «Будзе хлеб – будзе ўсё». Можа каторы яшчэ лічыць, што з далярамі ў яго будзе ўсё? А трасцу! Задушыцца без хлеба. «Хлеб – усяму галава», - адкажуць яму нашы калгаснікі на прапанову прадаць булку «чорнага каменнага» і шпурнуць назад, проста ў твар, ягоныя драпежныя даляры...

«Трэба хлеб сабраць, бо ён ужо вырас!» - вось другая скразная тэма нарады. Але ж як гэта зробіш, калі вакол адны прыдуркі, невукі, гультаі ды злодзеі? Аднаго такога Ён амаль злавіў за язык проста ў эфіры. Той пачаў нешта залішне круціць. Казаў, што за адну гадзіну работы камбайн спальвае шэсцьдзесят літраў (!) саляры. І ніхто на той нарадзе не ведаў, колькі на самой справе трэба паліва камбайну. Як памяць людзям адбіла. Зблыталі, мабыць, калгаснае паліва з палівам для ўласных аўтамабіляў. Так і не вырашылі, колькі ж трэба на самой справе. Магчыма, пяцьдзесят дзевяць...

Увогуле, як паказала селектарная нарада, Ён на сённяшні дзень у нашай краіне Едзінственны Паліцік. Бо за чатыры гадзіны абмеркавання (з прамой трансляцыяй па тэле- і радыёканалах) ніхто і слова Яму ўпоперак ўставіць не мог. Толькі дзякавалі. Нешта апазіцыйнае пра зарплату хацеў сказануць старшыня сельскагаспадарчага прафсаюза Ярашук, ды куды там! Уга! Не змог нават тэмбрам перасіліць. Калі іх побач паставіць, ды папрасіць у голас крыкнуць, дык Лукашэнка намнога мацнейшы за Ярашука будзе.

Памятайце, што ніхто яшчэ не любіў і не будзе любіць просты народ адчайней за Аляксандра Рыгоравіча, бо Ён сам пра гэта ўвесь час гаворыць. Таму нам трэба на працягу невераготна цяжкай бітвы за хлеб, якую Ён вядзе ў абсалютнай адзіноце, захоўваць поўны спакой. Горш нам усё адно ўжо не будзе.

# Еўрапейская місія прыехала ў Мінск

**Рыгор БУЯН**

Вечарам 31 ліпеня ў Мінск з афіцыйным візітам прыляцела дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Старшыня камітэта па палітычных пытаннях ПА СЕ Тэры Дэвіс, спецыяльны дакладчык па Беларусі Вольфганг Берэндт і дакладчык ад камітэта па правах чалавека і юрыдычных пытаннях Цырыла Свобада прыехалі ў Беларусь на чатыры дні. За гэты час місія плануе сабраць вычарпальную інфармацыю пра тое, як беларускія ўлады рыхтуюцца да правядзення свабодных дэмакратычных выбараў у парламент, запланаваных на 15 кастрычніка.

Каб скласці максімальна поўную і аб'ектыўную карціну ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі, місія ПА СЕ распрацавала надзвычай шчыльны графік сустрэчаў як з афіцыйнымі ўладамі, так і з апазіцыяй. «Тройка» паспрабуе вызначыць пазіцыю правячых колаў пад час сустрэчаў з прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным, старшынёй палаты прадстаўнікоў Анатолем Малафеевым, кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Уралам Латыпавым, старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай ды з першым намеснікам кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Уладзімірам Замяталіным.

Адносіны апазіцыі на выбарчай кампаніі місія ПА СЕ высветліць падчас наведвання Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партыяў, сустрэчаў з дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, разагнанага ў 1996 годзе, з асобнымі палітыкамі – Міхаілам Чыгіром, Міколам Статкевічам, Станіславам Шушкевічам, Анатолем Лябедзькам. У планах «тройкі ПА СЕ» – сустрэчы з журналістамі, прафсаюзамі і прадстаўнікамі «трэцяга сектара». Дэлегацыя выказала жаданне наведаць дэпутатаў ВС Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, якія знаходзяцца за кратамі.

Завершыцца місія сустрэчай з КНГ АБСЕ і Каардынацыйным камітэтам па няўрадавым назіранні за выбарамі, які ўзначальвае Мечыслаў Грыб, а таксама з амбасадарамі краінаў-удзельніцаў Савета Еўропы.

Па выніках чатырохдзённай працы ў Мінску «тройка» падрыхтуе аналіз унутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне, на падставе якога Савет Еўропы прыме канчатковае рашэнне: ці варта накіроўваць міжнародных назіральнікаў на восеньскія выбары. Адсутнасць міжнародных наглядальнікаў на выбарах прывядзе да непрызнання цывілізаваным светам новага парламента.

**Даведка.** Статус спецыяльна запрошанага ў ПА СЕ беларускі парламент атрымаў 16 верасня 1992 года. Пасля канстытуцыйнага рэферэндуму ў лістападзе 1996 года ПА СЕ прыпыніла статус спецыяльна запрошанага ў студзені 1997 года. У студзені 2000 года Асамблея пацвердзіла ўласнае рашэнне трохгадовай даўнасці аб прыпыненні статусу спецыяльна запрошанага. ■

# Дыфтэрыя пайшла ў наступ

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

Па інфармацыі намесніка галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Людмілы Мосінай, па стане на канец ліпеня ад дыфтэрыі (вострае інфекцыйнае захворванне, якое перадаецца паветрана-кропельным шляхам) у Беларусі памерла ўжо два чалавекі. Смяротныя выпадкі зафіксаваны ў Мінску і Магілёўскай вобласці.

У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, колькасць захворванняў дыфтэрыяй у Беларусі павялічылася ў дзевяць разоў, нягледзячы на правядзенне некалькі гадоў таму кампаніі па масавай вакцынацыі насельніцтва. Цяпер у сталіцы зафіксавана семнаццаць выпадкаў захворвання дыфтэрыяй (летась – толькі два).

Як адзначае Людміла Мосіна, пра эпідэмію дыфтэрыі ў Беларусі пакуль казаць не прыходзіцца, але сітуацыя надзвычай складаная. Асаблівую занепакоенасць выклікае ў медыкаў асяроддзе прыватных прадпрымальнікаў, якія возяць тавары з-за мяжы, — так званых "чаўнакоў", дзе інфекцыйныя захворванні распаўсюджваюцца з вялікай хуткасцю, улічваючы поўную бескантрольнасць за прафілактычнымі мерамі. Менавіта тут у бліжэйшы час чакаецца ўспышка дыфтэрыі. ■

**ФОТАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

# Жніво пачалося з абвінавачванняў

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Традыцыйнай селектарнай нарадай у прысутнасці ўсяго палітычнага бамонду Аляксандр Лукашэнка даў у мінулы чацвер старт сёлетняму жніву. Бітва за ўраджай пачалася...

«Голаду не будзе», - заявіў А.Лукашэнка, падкрэсліўшы, што такога добрага ўраджаю, як сёлета, рэспубліка не бачыла апошнія тры гады. Міністэрства сельскай гаспадаркі прагназуе, што рэспубліка атрымае 5,5 мільёнаў тонаў збожжа – гэта на два мільёны больш, чым летась. Аднак А.Лукашэнка такі прагноз назваў заніжаным і запатрабаваў сабраць не меней за 6 мільёнаў тон. Калі верыць новаму міністру сельскай гаспадаркі і харчавання Вадзіму Папову, то ўжо 200 тысяч гектараў палеткаў убрана. Засталося ўбраць астатняе. Аднак у цяперашніх эканамічных умовах гэтая задача надзвычай складаная. Без дапамогі дзяржавы сельская гаспадарка са жнівом не справіцца. І кіраўніцтва рэспублікі спрабуе дапамагчы вёсцы: па лізінгу АПК атрымаў 900 новых трактараў, з дзяржаўнага рэзерву выдзеленыя 20 тысяч тонаў дызельнага паліва і 10 тысяч тонаў бензіну на пачатак жніва. Што з гэтага атрымаецца — пакажа час.

Справы вясковыя — па завядзёнцы — Аляксандр Лукашэнка ўвязаў з палітыкай. Ён дужа абураўся тым, што напярэдадні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў 2001 года актывізаваліся ўнутраныя і знешнія ворагі — апазіцыя і Захад. Менавіта яны, як прагучала на нарадзе, нібыта распаўсюджваюць чуткі і палохаюць жыхароў Беларусі голадам. Таму А.Лукашэнка ўсенародна вымушаны быў самазаспакоіць сябе і сваё акружэнне: голаду не будзе.

Не абышлося на нарадзе без рэзкіх выпадаў на адрас яшчэ аднаго спрадвечнага ворага – прафсаюзаў. Дасталося на нарадзе і старшыні галіновага прафсаюза работнікаў АПК Аляксандру Ярашуку, і кіраўніку Федэрацыі прафсаюзаў Уладзіміру Ганчарыку. Кіраўнік Беларусі паспрабаваў давесці А.Ярашуку, што ягоны прафсаюз памыляецца ў ацэнцы сітуацыі на вёсцы. І што на самой справе ніякага ціску на прафсаюзы ўлады не аказваюць. Давялося А.Ярашуку публічна абвергнуць апошні тэзіс Аляксандра Лукашэнкі. І за прыкладам далёка хадзіць не прыйшлося: улады зрабілі ўсё магчымае, каб прымусіць дэлегатаў нядаўняга з'езда прафсаюза АПК абраць старшынёй прафсаюза былога міністра сельскай гаспадаркі Юрыя Мароза. Праўда, няўдала.

Старшыню ФПБ Уладзіміра Ганчарыка ды іншых прафсаюзных кіраўнікоў А.Лукашэнка абвінаваціў у ганьбаванні добрага імя цяперашняга рэжыму. Яны, на думку кіраўніка дзяржавы, дыскрэдытуюць праводзімую на Беларусі эканамічную палітыку, а самі займаюцца фінансавымі махлярствамі ■

# Супраць знікнення людзей

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Мінскія ўлады далі дазвол кіраўніку Цэнтра па правах чалавека Веры Страмкоўскай на правядзенне пікета ў знак пратэсту супраць знікнення людзей. Пікет пройдзе ў Мінску 3 жніўня. Праўда, замест плошчы Калініна ўдзельнікам акцыі прыйдзецца выказваць свой пратэст на плошчы Бангалор з 11 да 14 гадзінаў. Асабістую ініцыятыву адваката падтрымалі праваахоўныя арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" і "Вясна-96".

Вера Страмкоўская, якая летась двойчы атрымлівала міжнародныя ўзнагароды ў галіне правоў чалавека, мяркуе запрасіць на акцыю родных і блізкіх бясследна знікшых: былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, пра якога нічога невядома з мінулай вясны; аднаго з лідэраў апазіцыі Віктара Ганчара і прадпрымальніка Анатоля Красоўскага, сляды якіх згубленыя 16 верасня мінулага года; аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, які прапаў 7 ліпеня ў аэрапорце "Мінск-2". ■

# АГП канчаткова адмовілася ад выбараў

**Аляксей СТАЎСКІ**

Канчатковае рашэнне аб няўдзеле ў "восеньскім выбарчым фарсе" прыняла на апошнім паседжанні палітсавета Аб'яднаная грамадзянская партыя. Пасля працяглай дыскусіі толькі трое з дваццаці чатырох сяброў палітсавета выказаліся супраць такой адназначнай рэзалюцыі. На думку старшыні АГП Анатоля Лябедзькі, калі якая-небудзь з партыяў, што ўваходзяць у апазіцыйную кааліцыю, прыме рашэнне ўдзельнічаць у выбарах у палату, то яна мусіць узяць на сябе адказнасць за верагодны развал гэтай самай кааліцыі.

Акрамя пытання выбараў, на палітсавеце была пададзеная ініцыятыва даць Вярхоўнаму Савету 13-га склікання на разгляд Акт Незалежнасці, прынятым на Усебеларускім з'ездзе 29 ліпеня. Гэта, на думку сяброў палітсавета АГП, "надасць гэтаму дакументу сапраўдную юрыдычную сілу". ■

# Настаўнікі патрабуюць вярнуць грошы

**Юрась ВЯЧКА**

Старшыня рэспубліканскага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамара Чобатава запатрабавала ад кіраўніка Савета міністраў пагасіць запазычанасць перад настаўнікамі. У лісце, накіраваным на імя Уладзіміра Ярмошына, гаворыцца, што рашэнне Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях разлічыцца з настаўнікамі да 20 ліпеня не выкананае. Між тым, дзяржава завінавацілася настаўнікам (па стане на 21 ліпеня) 3 мільярды 512 мільёнаў рублёў: гэта 1 мільярд 52 мільёны чэрвеньскай зарплаты і 2 мільярды 496,3 мільёна адпускных за ліпень.

Нягледзячы на летнія канікулы, многія настаўнікі вымушаныя працаваць – бо жыць неяк трэба. А грошай на адпачынак і аздараўленне няма. У вачах настаўніцтва дзяржава канчаткова страчвае свой сацыяльны статус. ■

# Паліць дзе заўгодна будзе нельга

**Кірэй МАНУЙЛАЎ**

Па ініцыятыве міністэрства аховы здароўя Савет міністраў рыхтуе пастанову аб абмежаванні рэкламы тытунёвых вырабаў і палення ў грамадскіх месцах.

У міністэрстве аховы здароўя прыводзяць такую лічбу: у Беларусі паляць 47% насельніцтва. Па даследаваннях міжнародных медычных арганізацыяў, паленне ў 10 разоў больш небяспечнае для жыцця, чымсьці дарожна-транспартныя здарэнні.

Мяркуецца, што пастановай будзе забароненая як адкрытая (ролікі на тэлебачанні, рэкламныя шчыты на вуліцах), так і прыхаваная (разнастайныя розыгрышы прызоў, што праводзяцца тытунёвымі кампаніямі) рэклама цыгарэтаў. Разам з тым, будзе забароненае паленне ў наземным і паветраным транспарце, вакзалах, школах, у памяшканнях, дзе праводзяцца масавыя мерапрыемствы.

Не выключана, што ў гэты спіс патрапяць нават рэстараны і бары. Дарэчы, у Фінляндыі, дзе самыя жорсткія ў Еўропе правілы супраць палення, гэта зроблена. Можна паліць толькі ў тых тамтэйшых рэстаранах, кавярнях і начных клубах, дзе стаяць вентыляцыйныя сістэмы, якія не даюць дыму прасочвацца на працоўныя месцы і кухні. Але не ўсе, асабліва дробныя бары, могуць купіць такія дарагія вентыляцыі, а таму наракаюць, што забарона паліць адпудзіць кліентаў. Фінскія ўлады плануюць забараніць паленне на агульных балконах шматкватэрных дамоў.

Магчыма, што ўрадавая пастанова прадугледзіць і штрафныя санкцыі. У міністэрстве аховы здароўя гавораць, што гэта можа быць грашовае спагнанне ад 10 да 50 мінімальных заробкаў як з саміх курцоў, так і з адміністрацыяў тых установаў, дзе антытытунёвыя правілы не будуць выконвацца належным чынам. ■

# Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

З гэтага дня абвяшчэння БНР і далей у часы ВКЛ, у глыбіню вякоў, калі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзніклі першыя дзяржаўныя ўтварэнні. Дзякуй Богу, з'езд не стаў гістарычнай канферэнцыяй ці сходам ветэранаў Аршанскай ды іншых слаўных перамогаў над знешнімі ворагамі. Спыніліся на тым, што пакуль народ Беларусі змагаўся за незалежнасць, ён заставаўся народам, што незалежнасць – здабытак не толькі сённяшніх пакаленняў беларусаў, але таксама і мінулых, а галоўнае, будучых, і таму нікому не дадзена распараджацца гэтай каштоўнасцю як таварам. Шмат і грунтоўна казалі пра сённяшні цяжкі для беларускасці час, пра тое, што ўлады не дапамагаюць ратаваць мову, што на ўскрайку прагрэсу апынулася эканоміка, што маючыя ўладу палітыкі, каб захавацца, гатовыя прынесці ў закланне суверэнітэт краіны. Адсюль лагічным выглядала рашэнне з'езда заявіць, што ніякі дзяржаўны орган нават праз рэферэндум не ў праве ні з кім заключаць саюзы, якія б пазбавілі Беларусь яе незалежнасці.



Гэты прынцып быў абвешчаны ад імя прадстаўнікоў беларускага народа. Але хто ж яны такія, гэтыя прадстаўнікі, што з'ехаліся ў Мінск у мінулую суботу і якіх улады ўжо паспяшылі абвесціць самазванцамі (гэтак кажуць прадстаўнікі ўлады, стрыжань якой з ліпеня мінулага года ў большасці свету лічыцца нелегітымным)? Вось крыху статыстыкі. Усяго на з'езд былі вылучаныя ад працоўных калектываў, сходаў жыхароў, палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў 1.452 дэлегаты, з іх у з'ездзе ўдзел прынялі 1.350.(Заўважу пры гэтым, што аргкамітэт не ствараў перашкодаў да вылучэння, аднак кваціраваў колькасць прадстаўнікоў. І яшчэ важны момант – у працэсе падрыхтоўкі з'езда ўлады хутчэй перашкаджалі, чым дапамагалі, але варта адзначыць, што перашкодаў непасрэдна ў мінулую суботу не чынілася). З усіх дэлегатаў ад Мінска на з'езд прыбыло 568 і ад кожнай вобласці – ад 104 да 166 пасланцоў. Мандатная камісія з'езда абвесціла, што былі прадстаўленыя 102 з 117 раёнаў Беларусі (да ведама, у лукашэнкаўскім Нацыянальным сходзе не прадстаўленыя больш за палову выбарчых акругаў, аднак прадстаўніцтва ад раёнаў адпаведнае з'езду). Інфармацыя пра тое, як прадстаўленыя палітычныя партыі на з'ездзе, не гучала, і, здаецца, спецыяльна такі ўлік не вёўся. Партыі ўвогуле не дамінавалі на з'ездзе, і нават партыйныя лідэры на ім не выступалі. Кіравалі з'ездам і натхнялі прысутных з прэзідыума вядомыя дзеячы культуры і навукі – паэт Генадзь Бураўкін, паэт Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч , паэт Рыгор Барадулін. Больщасць з іх выступіла з дакладамі, а таксама з прамовамі звярнуліся старшыня БХК Тацяна Процька, экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір, кіраўнік "Гарадзенскай ініцыятывы" Сямён Домаш, намеснік старшыні "Грамады" Аляксей Кароль. Таксама былі зачытаныя прывітанні да з'езда ад Васіля Быкава, Сямёна Шарэцкага, Івонкі Сурвілы і асобнае пасланне Зянона Пазьняка. Усе гэтыя пасланні дэлегаты ўспрымалі як знакавыя і адказвалі на іх ўставаннем ды авацыямі. Гэтак жа было сустрэтае і адмысловае пасланне чэшскага прэзідэнта Вацлава Гавела, які вітаў дэлегатаў як пасланцоў народа, што адстойвае дэмакратычныя каштоўнасці. На з'ездзе, дарэчы, прысутнічалі шмат хто з замежных дыпламатаў і нават кіраўнікоў місіяў – амбасадар Францыі Бернар Фасье, часовы павераны Чэхіі Алеш Фойцік, пасол Польшчы Марыюш Машкевіч, амбасадар Украіны Анатоль Дронь і іншыя дыпламаты. Гэта безумоўна сведчыць пра тое, што замежнікі не абмяжоўваюць сябе зваротамі толькі да палітыкаў, а хочуць пачуць і голас народа. Магчыма, яны ідэнтыфікавалі прамовы прадстаўнікоў нацыянальна свядомай эліты Беларусі з галасам народа і нават зрабілі выснову, што большасць жыхароў гэтай краіны мысляць і дзейнічаюць па-еўрапейску і хочуць жыць у сяброўстве з усімі суседзямі па еўрапейскім доме. Але галоўнае, каб паразумеліся паміж сабой мы, беларусы. Усебеларускі з'езд пры ўсёй умоўнасці ягонай усебеларускасці такі шанец дае. Выкарыстаем?

## Сацыял-дэмакраты разважаюць наконт выбараў

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Цэнтральны камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), які праводзіў 30 ліпеня сваё чарговае пасяджэнне, першым пунктам ухваліў усе рашэнні і рэзалюцыі Усебеларускага з'езда за незалежнасць.

Найбольш гарачая дыскусія разгарэлася па пытанні восеньскіх выбараў у палату. Гучалі самыя розныя меркаванні, але канчатковая рэзалюцыя ўсё ж засталася пакуль што ў межах рашэнняў, прынятых на Кангрэсе дэмакратычных сілаў, – партыя цэнтралізавана не будзе ўдзельнічаць у выбарах. Аднак не выключана, што да пятага верасня пройдзе другая сесія чацвёртага з'езда БСДП (НГ), на якой можа быць прынятае рашэнне аб удзеле ў выбарах.

ЦК вырашыў: ён не можа забараніць асобным сябрам партыі вылучацца на выбарах асабіста або ад працоўных калектываў.

## Абрабавалі "Бацькаўшчыну"

Рыгор БУЯН



У ноч з 23 на 24 ліпеня невядомыя злачынцы абрабавалі офіс Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», які знаходзіцца на вуліцы Рэвалюцыйная, 15 у самым цэнтры Мінска. Узламаўшы ўваходныя дзверы, злодзеі ўкралі камп'ютэрны блок з інфармацыйнай базай за 10 гадоў існавання «Бацькаўшчыны», з адрасамі і тэлефонамі беларусаў усяго свету. Злачынцы знеслі таксама новы лазерны прынтар і тэлефон-факс. Між тым, невядомыя па невытлумачальных прычынах не пакапаліся на камп'ютэрны манітор, ксеракс, друкарскую машынку і нават не ўзламалі сейф.

Прэзідэнт «Бацькаўшчыны» акадэмік Радзім Гарэцкі сказаў карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ, што найбольшае шкадаванне выклікала знікненне інфармацыйнай базы, найперш адрасоў ды тэлефонаў беларускай дыяспары, адныясць якія будзе надзвычай складана: не ўся выкрадзеная інфармацыя дубліравалася на дыскеты. Больш за тое, злачынства адбылося напярэдадні восеньскай сесіі Міжнароднага кангрэса беларусістаў, што стане надзвычайнай перашкодай пры падрыхтоўцы форуму.

Радзім Гарэцкі адмовіўся вылучаць нейкія версіі злачынства. Што гэта: звычайны крымінал ці мэтаскіраваная і загадзя спланаваная акцыя? Беручы пад увагу той факт, што за апошнія тры месяцы – гэта трэцяе па ліку вядомае рабаўніцтва грамадскіх арганізацыяў, - напрошваецца выснова пра невыпадковасць крадзяжу. У траўні невядомыя злачынцы «пачысцілі» штаб-кватэры праваахоўных арганізацыяў «Прававая дапамога насельніцтву» і Цэнтра па правах чалавека.

АДУКАЦЫЯ

## Універсітэт павіс у паветры

Рыгор БУЯН

28 ліпеня кіраўнікі трох грамадскіх аб'яднанняў мелі гутарку з міністрам адукацыі Васілём Стражавым наконт адкрыцця Беларускага Нацыянальнага універсітэта, ідэя якога вітае ў грамадстве каля трох гадоў. Такое даручэнне чыноўніку даў новы віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук.

Неабходнасць абмеркавання праблемы першага ў рэспубліцы нацыянальнага універсітэта, дзе б усе вучэбныя дысцыпліны выкладаліся толькі па-беларуску, наспела даўно. Дзеля адкрыцця БНУ створаны перадумовы: ініцыятары сабралі каля 30 тысяч подпісаў у падтрымку стварэння універсітэта; вядучымі беларускімі навукоўцамі распрацаваныя канцэпцыя БНУ і праект Статута; няма праблемаў і з выкладчыцкімі кадрамі. Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі ды кіраўнік Таварыства беларускай школы Алесь Лозка ў лісце да кіраўнікоў краіны пісалі: "Мы лічым, што Беларусь як многанацыянальная краіна, дзе карэнная нацыя складае выключную большыню ад усяго жыхарства – 81,7%, а 85,6% лічаць беларускую мову сваёй роднай (паводле вынікаў апошняга перапісу насельніцтва), мае права мець сваю нацыянальную (менавіта беларускамоўную!) сістэму адукацыі".

Па словах старшыні ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага, сустрэча з міністрам адукацыі праходзіла ў добразычлівай атмасферы. Але гэтая добразычлівасць не перашкодзіла Васілю Стражаву зрабіць заяву пра немагчымасць адкрыцця БНУ па тэхнічных прычынах: патрэбны будынак для універсітэта і так далей. Міністр настойваў на тым, што напачатку трэба пашыраць плыню беларусізацыі ва ўжо існуючых ВНУ, і толькі пры дасягненні гэтай мэты думаць пра адкрыццё Нацыянальнага універсітэта.

Радзім Гарэцкі, Алег Трусаў ды Алесь Лозка настойвалі на тым, што трэба неадкладна ствараць БНУ ці хоць бы весці паралельную работу па стварэнні адзінай беларускамоўнай альма матэр і пашырэнні беларусізацыі.

Фактычна праблема стварэння Нацыянальнага універсітэта павісла ў паветры. Ва ўсякім выпадку міністэрства адукацыі спяшацца не збіраецца. У сваю чаргу ініцыятары БНУ маюць намер дабіцца адкрыцця універсітэта, няхай пакуль і невялікага, з наступнага навучальнага года.

## Міністр Васіль Стражаў «у міліметры ад рашэння»

### Развіваць у вузах двухмоўе, а не ствараць Беларускі Нацыянальны універсітэт

Ян ДЗЯМІДАЎ

Больш за 30 працэнтаў школьнікаў навучаюцца цяпер на беларускай мове, паведаміў на прэс-канферэнцыі міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў. Але ён не бачыць неабходнасці ў стварэнні ў краіне Нацыянальнага універсітэта.

Трэцяе тысячагоддзе беларуская сістэма адукацыі сустрэне дзвюма пікавымі велічынямі – у наступным годзе будуць зафіксаваныя максімальныя за апошнія гады колькасці выпускнікоў сярэдніх школаў (94 тысячы) ды першакласнікаў (110 тысяч). Потым дэмаграфічныя фактары прывядуць да значнага зьмяншэння колькасці навучэнцаў, але на працягу пяцігодкі лічбы будуць заставацца стабільнымі, сказаў міністр адукацыі.

Ён адмовіўся адказаць на пытанне, колькі першакласнікаў у гэтым верасні пойдуць у беларускія класы – маўляў, усё залежыць ад волі бацькоў. Пакуль жа трэцяя частка школьнікаў усіх узростаў атрымлівае адукацыю па-беларуску. Дзе ж яны змогуць атрымаць беларускамоўную вышэйшую адукацыю? Гэтым пытаннем заклапочаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў Беларусі. Васіль Стражаў заявіў журналістам: "Ведаеце — гэта мая думка і асабістая, і як афіцыйнай асобы – гэтае супрацьстаянне, гэта значыць, што быццам бы ў нас не нацыянальная вышэйшая школа. Гэта смешна. А якая яна ў нас?" – рытарычна запытаў ён.

Васіль Стражаў упэўнены, што трэба ісці іншым шляхам: ствараць у вышэйшых навучальных установах дзве плыні – беларускамоўную ды рускамоўную. "Мы ўжо ў міліметры ад гэтага рашэння", — дадаў міністр адукацыі.

Ён таксама паведаміў, што ў гэтым годзе колькасць студэнтаў у Беларусі ўпершыню перавысіць 300 тысяч чалавек, што ёсць перадавы еўрапейскі паказчык. Таксама спадар Стражаў паабяцаў паменшыць да нармальнага еўрапейскага ўзроўню нагрузку на школьнікаў у 2002 годзе. Да гэтага ж часу вырашана адкласці ўвядзенне ў сярэдніх школах 10-бальнай сістэмы адзнакаў.

**Агенцтва "Ю.С.Ньюс"**

## За 6 месяцаў – страты як на вайне

Кірыла ПАЗЬНЯК

Як паведамілі ў Рэспубліканскім таварыстве выратавання на водах, за першае паўгоддзе гэтага года ў Беларусі бяды ў воднай стыхіі зазналі 1.584 чалавекі, з іх 351 дзіця. Не ўдалося выратаваць трацціну – 534 небаракі-плыўцы, у тым ліку 43 малыя. Трагічная статыстыка па абласцях такая: Брэсцкая вобласць – 95 тапельцаў, Віцебская – 98, Гомельская – 81, Гродзенская – 63, Мінская – 97, Магілёўская – 53, у Мінску – 47. Калі лідэрства па колькасці смерцяў на вадзе на Віцебшчыне (край азёраў) і Міншчыне (менавіта сюды прыязджаюць купацца сталічныя жыхары, бо мінскія вадаёмы спрэс забруджаныя) традыцыйнае, то Берасцейшчына апынулася на трэцім месцы нечакана.

Тым не менш, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, сёлета ахвяраў меней — відаць, таму што надвор'е халаднейшае. Летась за першыя 6 месяцаў патанулі 843 чалавекі. Тады толькі ў чэрвені былі зафіксаваныя 542 трагічныя выпадкі.

Асноўная прычына смяротных здарэнняў на вадзе – баўленне часу ў забароненых для купання месцах. Нездарма на рэках і азёрах, дзе ёсць спецыяльныя выратавальныя станцыі (усяго іх па краіне 61), сёлета загінулі толькі 2 чалавекі. Прычым нават там купацца бяспечней за ўсё з 9 да 21 гадзіны. Менавіта гэтай парой сутак выратавальнікі, мяняючыся праз кожныя дзве гадзіны, наглядаюць за воднай акваторыяй.

Другая прычына, чаму людзі патанаюць, — злоўжыванне алкаголем. П'янымі ў вадзе гіне 60% тапельцаў.



● Рака заўжды хавае небяспеку

